# Як правесьці юбілейны вечар.

Юбілейныя вечары будуць праводзіцца ў атрадах і школах не раней як 1-га студзеня*). Да гэтага часу пытаньне аб юбілеі і яго задачах ставіцца як *асобнае заданьне* ў зьвеньнях. Зьвеньні дакладна знаёмяцца з тым, што трэба зрабіць піонэрам, каб пашырыць сваю часопісь, і з тым, які можа быць іх удзел у працы рэдакцыі. Яны-ж болей падрабязна знаёмяцца са зьместам самое часопісі. Вынікамі іх працы будзе сталая клясыфікацыя (распарадак) матар'ялу, што зьмяшчаўся ў часопісі за апошні, прынамсі, год. Гэты распарадак трэба запісаць у дыяграму, якая будзе вывешана ў клюбе ЮП, каб усе маглі бачыць, што зьмешчана ў часопісі і ў якім нумары (схэму, парадак запісаў падліку матар'ялу няхай распрацуе рэдколегія свае насьценнае газэты).

Паасобныя-ж зьвеньні змогуць таксама высьвятліць і такое пытаньне: „што нам дае часопісь", дзе будуць занатаваны думкі паасобных чытачоў. Гэты матар'ял трэба зьмясьціць у насьценнай газэце, якая к юбілею часопісі павінна абавязкова выйсьці ў кожным атрадзе.

Самай-жа галоўнай практычнай працай для зьвеньняў будзе азнаямленьне з часопісьсю ўсіх дзяцей і стараньне пашырыць лік падпісчыкаў у сваёй мясцовасьці.

Самы вечар у атрадзе ці школе можна правесьці вельмі жыва і ўдала, калі толькі будзе зроблена належная падрыхтоўка і зацікаўленасьць піонэраў і вучняў.

Тут мы пастараемся намеціць прыблізны плян, які можна будзе выканаць у час вечару кожнаму атраду і школе.

Перш за ўсё маленькі колектыўны даклад. У дакладзе трэба адзначыць мэты выданьня часопісі, зьмест часопісі, дасягненьня за 3 гады выданьня (уцягнулі ў супрацоўнічаньне больш 100 пастаянных корэспондэнтаў—піонэраў і вучняў, і шмат старых і маладых пісьменьнікаў і настаўнікаў, палепшылі зьмест часопісі, перайшлі на двохтыднёвае выданьне і г. д.). Другой часткай даклада будзе аб тым, як пашыраецца часопісь у вашым атрадзе, якую карысьць прыносіць яна чытачам і чаго мы яшчэ хацелі-б ад часопісі.

Форма перадачы такога дакладу можа быць рознай. Самай прыемлемай і лёгкай будзе форма колектыўных выгукаў, як дапамога сталаму дакладчыку*).

Шмат якія атрады, напэўна, падрыхтавалі ўжо якую-небудзь *інсцэніроўку* з тых, што зьмяшчаліся ў часопісі. Вось і яе трэба выканаць на гэтым вечары.

У часопісі шмат зьмяшчалася *вершаў і апавяданьняў* саміх піонэраў і вучняў. Іх трэба часткай (лепшыя і больш зручныя для дэклямацыі) прачытаць. Наогул трэба пастарацца ўвесь *літаратурны матар'ял падабраць з часопісі „БП"*, бязумоўна, паведамляючы аб гэтым прысутных.

У часопісі зьмяшчалася шмат розных *загадак* (і адгадак) *жартаў, фокусаў*. Бязумоўна, шмат якія жарты будзе цікавым зачытаць; варта зачытваць і загадкі, з такім разьлікам, каб аўдыторыя сама знаходзіла адказы, у крайнім выпадку адказвае той, хто будзе загадваць. Тое-ж самае можна прарабіць і з фокусамі. Фокусы зьмяшчаліся ў апошніх нумарох часопісі, выканаць іх можна вельмі лёгка.

Апрача гэтага у кожнай школе ці атрадзе знойдзецца *гурток фізкультурнікаў, харавы гурток, музычны*... Іх трэба абавязкова прыцягнуць на гэты вечар.

Такі нявялічкі плян можа адняць ня болей 3—3½ гадзін з перапынкамі. Яго можна сваімі сіламі і лёгка правесьці. Аднак-жа вечар, пабудаваны такім чынам, можа быць вельмі цікавым. Трэба толькі *дружна і ахвотна* ўсім узяцца за справу організацыі юбілейнага вечара, не адцягваючы гэтага да *самых апошніх дзён*.

*) Да гэтага часу мае быць разаслана падпісчыкам і часопісь № 24.

*) Шмат матар'ялу для дакладу можна знайсьці ў № 12, за 1925 г.

Рэдколегія: Г. Брыгневіч, С. Жураўскі, М. Мамчыц, А. Пякарчык, А. Якімовіч.

Адказны рэдактар А. Пякарчык.

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, Комсамольская, 25.

№ 23 СЬНЕЖАНЬ 1927 г.

# Комсамолу Беларусі —дзевяць гадоў

## ТАМ, ДЗЕ ЗЬБІРАЛІСЯ ДВАРАНЕ.

У 1918 г. гасьцініца Эўропа, што на Пляцы Волі, ня мела такога прыгожага выгляду, як цяпер. Холадна, накурана, на падлозе паперкі, акуркі. Людзі прыходзяць, каб паляжаць пару гадзін, адпачыць і зноў апынуцца на цяжкай упартай працы.

У адным з пакояў гэтай гасьцініцы сядзела пяць бязвусых маладых хлапцоў. Толькі нядаўна былі яны з вінтоўкамі, а цяпер узброіліся ручкамі. Старанна выводзяць на лістках паперы:

*„13-га сьнежня ў быўшым „Дваранскім Сабраньні“ адбудзецца мітынг рабочай моладзі. Усіх маладых рабочых просяць прыйсьці“.*

Потым самі расклейвалі па Ляхаўцы, па Камароўцы, Сьляпянцы.

Многія з вас часта праходзяць міма клюбу „Карла Маркса“ ў Менску, але ня ўсе ведаюць, што гэты клюб быў калісьці „Дваранскім Сабраньнем“. І вось у сьнежні 1918 г., як толькі Менск быў вызвалены ад нямецкіх войск, з „Дваранскага Сабраньня“ павыляталі ўсе дваранчыкі і купчыкі, і сабралася там рабочая моладзь.

13-га сьнежня быў першы сход рабочай моладзі, а 15-га—ужо рабіла там пасяджэньне менская організацыя Комсамолу, гэты дзень і лічыцца пачаткам існаваньня КСМБ.

Не згаварваліся. Ня пісалі ў другія гарады. А ўсюды, па ўсёй Беларусі, таксама, як і ў Савецкай Расіі, пачалі пісаць абвесткі і пачалі зьбірацца маладыя рабочыя. *Складаўся Комсамол Беларусі.*

І ўжо потым, калі ў шмат якіх мясцовасьцях былі складзены комсамольскія організацыі, сабраліся іх прадстаўнікі ў Смаленск на зьезд. Гэты зьезд *быў першым зьездам беларускага Комсамолу.*

## ДАРАГІЯ МАГІЛЫ.

Заслаўскія піонэры, напэўна, ведаюць, што недалёка ад іх—варта толькі прайсьці міма двух шэрагаў пагранічных слупкоў —ёсьць ст. Радашковічы, ёсьць мястэчка Аляхновічы. На гэтым вучастку—невядомыя магілы. Але гэтыя магілы нам, комсамольцам, добра вядомы. Яны нам дарагі. Там, каля Аляхновічай, загінулі ў бойцы за Чырвоны Менск комсамольцы-кулямётчыкі. А колькі такіх магіл! Няма гораду ў Беларусі, няма мястэчка, ад-

куль-бы ў 1919 г. насустрэч бела-польскім войскам ня выходзілі-б узброеныя рабочыя атрады, а ў шэрагах іх 14-15-гадовыя комсамольцы.

## ВЯЛІКАЯ СПРАВА Ў МАЛЕНЬКІХ ДОМІКАХ.

Схадзеце ў Менску на Гандлёвую вуліцу. Што там асаблівага? Маленькія, старыя домікі—і ўсё.

Альбо, што асаблівага ў белым доміку на рагу Рэволюцыйнай і Рэспубліканскай, альбо на рагу Унівэрсытэцкай і Валадарскага, альбо на адным з завулкаў каля Юбілейнага Пляцу? Здавалася-б, што нічога асаблівага. Але там, у гэтых завулачках, у гэтых маленькіх, старэнькіх доміках рабілася вялікая справа. Там кіпела жыцьцё комсамольскае. У тыя часы, калі польскія жандары — „канарыкі“ забівалі, мучылі, зьдзекваліся над кожным падарожным, які паказваўся ім падобным да бальшавіка, калі тупымі нажамі рэзалі ў старых яўрэяў іх сівыя бароды, там, у гэтых доміках, зьбіраліся комсамольцы, вучыліся рэволюцыйнай справе, там атрымоўвалі яны адозвы да рабочых і польскіх салдат, надрукаваныя ў патаемных друкарнях. І адтуль, з гэтых домікаў, выходзілі, крадучыся і аглядаючыся, комсамольцы і разносілі па ўсіх завулках гораду пякучыя, заклікаючыя комуністычныя словы.


Тав. Залоцін.

А вось яшчэ. На Рэволюцыйнай 22, у невялікай кватэры зьмяшчаліся ўсе профсаюзы. Вельмі часта заглядвалі туды польскія поліцэйскія, рабілі вобыскі, шукалі комуністых і комсамольцаў. І на самай справе,—дзе-ж быць комуністаму і комсамольцу, як не ў профсаюзах, не ў рабочых гушчах? І яны былі там, складалі гурткі беспартыйнай моладзі, займаліся самі, агітавалі сярод рабочых за комуністых.

І ня толькі ў Менску, а і Бабруйску, Слуцку, Мозыры, Шчэдрыне, Копылі, Пясочно—там, дзе ёсьць рабочыя моладзь,—усюды зьбіраліся комсамольцы і патаемна ад польскай буржуазнай улады рабілі вялікую рэволюцыйную справу.

## ЛЯСЫ ЖЫВУЦЬ, У ЛЯСОХ ЛЮДЗІ.

Вы ідзяце лесам. Лес, як лес. Але ў той час, у час захопу Беларусі войскам польскай буржуазіі і паноў, у лясох былі людзі. Ніколі столькі людзей ня бывае ў лясох, нават у час самых вялікіх лясных распрацовак. Тады ў лясы ішла сялянская моладзь і пад кіраўніцтвам старых, спрабаваных барацьбітоў-комуністых вяла барацьбу з буржуазнай уладай.

Партызаны—так зваліся гэтыя барацьбіты, сачылі па лясных дарогах за вайсковымі абозамі і адбівалі іх, сачылі за жандарамі—і накіроўвалі іх „к Калчаку для сувязі“; сачылі за цягнікамі з войскам альбо зброяй—і ўзрывалі чыгункі.

Слуцкія лясы, дукорскія лясы, маладзечанскія лясы, барысаўскія, меляшковічанскія, стара-дароскія, капыльскія,—уся Беларусь была ахоплена хваляй партызанскага руху. Расстрэлы злоўленых партызанаў ня спынялі чыннасьці астатніх. А расстрэлена і саслана на катаргу было нямала.

## ШТО АЗНАЧАЛА ДЭФЭНЗЫВА.

У маленькіх доміках і ў цёмных лясох зьбіраліся комсамольцы. А ў другіх, вялікіх дамох сядзелі тыя, якія лавілі гэтых комсамольцаў, стараліся абараняць уладу белагвардзейцаў. Ведаеце аб'яднаную профшколу ў Менску? Ведаеце дзе знаходзіцца ЦК КП(б)Б? Ведаеце, дзе знаходзіцца вялікі чырвоны дом побач з Пушкінскай бібліотэкай?—Вось у гэтых самых дамох зьмяшчалася дэфэнзыва.

Незразумелае слова. Але тагочасным комсамольцам яно было добра зразумелым. Дэфэнзыва—гэта азначала арышт, гэта азначала ўколы іголкамі пад кіпці пальцаў, гэта азначала бязьлітаснае зьбіваньне да страты сьвядомасьці, гэта азначала турму і катаргу. Для некаторых, для *Піні Залоціна*, у Бабруйску, напрыклад, дэфэнзыва азначала—р а с с т р э л.

Добрыя сышчыкі былі ў дэфэнзыве. Вышуквалі, як не ўхітраліся комсамольцы схаваць сваю работу. Арыштоўвалі—і думалі: з Комсамолам кончана. Але яны памыляліся. Забіралі адных, працягвалі

работу астатнія. І зноў у цёмныя марозныя ночы, хадзілі комсамольцы па вуліцах і незаўважна раскідвалі свае адозвы.

## КАНЧАТКОВАЯ СТАНЦЫЯ—КОМУНІЗМ.

Прайшлі гады боек і змаганьняў. Выгнаны белыя войскі з абшараў Савецкіх Рэспублік. Аглянулася рабочая кляса—бачыць: разбурана ўсё, паломана, спалена. Узялася за рамонт, за папраўку.

Вось скончылі работу на фабрыках. Гудкі адгулі. Але ня выходзяць за вароты шумныя натоўпы рабочых. Сабраліся на фабрычным двары, песьні пяюць, чытаюць указаньні—дзе і што трэба зрабіць. Гэта „суботнік“.

Комсамольцы на „суботніках“—самы жывы асяродак. Яны ведаюць, што трэба адбудоўваць гаспадарку, што трэба пусьціць заводы для таго, каб потым будаваць новыя, паляпшаць работу старых—ісьці к комунізму! І недарма на новенькім блiскучым паравозе, што быў адрамантаваны комсамольцамі на „суботніках“ вялізны надпіс: *„Канчатковая станцыя—комунізм“.*

## КОМСАМОЛ СОЧЫЦЬ, КОМСАМОЛ СУДЗІЦЬ.

Але дзяржаўныя прадпрыемствы былі яшчэ слабыя ў тыя гады, у першыя гады мірнага будаўніцтва. І патышчыўся ва ўсе ўзрэхі крамнік, нэпман. Пачаў ён адчыняць майстэрні, крамы, стаў набіраць рабочых падросткаў і думае, што прышлі да яго старыя дзянёчкі.

Але ня думаў нэпман, што рабочая моладзь у Савецкай краіне зможа пастаяць за сябе. Савецкая ўлада выдала законы, абараняючыя труд моладзі. Думаў нэпман: законы—законамі, а на справе будзе іншае.

Але рабочая моладзь ужо ведала аб КСМ. Яна пачала хадзіць у Комсамол. Расказвала там свае жалабы, выдавала ўсе хітрыкі гаспадароў. І Комсамол не спаў.

Вось сцэна клюбу. На сцэне судзьдзя. Побач два комсамольцы—засядацелі. Вось абвінавайца-комсамолец. Вось сьведкі. А на лаўцы падсудных—гаспадар майстэрні, які набіў рабочага падростка. Савецкая ўлада—на баку рабочай моладзі, яна не дапушчае такіх адносін ду маладых рабочых, як у старыя, буржазныя часы.



1. Менская турма, у якой у часы падпольля былі заключаны менскія комсамольцы. 2. **Т. Зайдэнвер**—адзін з організатараў менскага комсамолу. 3. Домік на Гандлёвай вул.—месца падпольных сходаў менскіх комсамольцаў. 4. Білет сябра КСМ у часе падпольля. 5. **Каждан І.**—бабруйскі комсамолец, забіты на фронце.

І з тыдню ў тыдзень, пасьля сваёй звычайнай працы, зьбіраліся комсамольцы, склікалі да сабе беспартыйных і працавалі. Працавалі дарэмна, „суботнічалі“, адбудоўвалі соцыялістычную гаспадарку.

А Комсамол працуе. Ён робіць агляд стану здароўя рабочай моладзі, адчыняе ў Весялоўцы Дом Адпачынку, адчыняе сталоўку, складае Юнсэкцыю на Біржы Працы, вядзе барацьбу з беспрацоўем маладых рабочых.

## ПАРАСЁ, ВЫКАРМЛЕНАЕ ЯЧЭЙКАЙ ПАВІННА БЫЦЬ ПЕРШЫМ НА СЯЛЕ.

Калі ў вёсках зьявіліся першыя камсамольскія ячэйкі, калі вясковыя камсамольцы з вінтоўкамі і стрэльбамі ішлі на паляваньне за бандыцкімі шайкамі, ведалі сяляне, што камсамольцы — сапраўдная апора Савецкай улады ў вёсцы.

Але ня толькі вінтоўка была ў руках у камсамольцаў. Вы ведаеце—ёсьць цяпер у вёсках хаты-чытальні. Але раней іх ня было. Гэта камсамольцы высялялі папоў з іх добрых, цёплых домікаў і наладжвалі там свае клюбы, хаты-чытальні, школы, дзе сялянства вучылася комунізму.

Прайшлі гады, вінтоўкі здадзены. Вярнуліся з арміі больш старэйшыя, падрос сялянскі маладняк. Узяліся за вучобу: ліквідацыя няпісьменнасьці, палітгурткі, сельска-гаспадарчыя гурткі.

І Комсамол першы сказаў: „Трэба падняць сельскую гаспадарку, трэба перайсьці на шматпольле, трэба здружыцца з навукай“.

Комсамолец лодыр — не комсамолец. Комсамолец павінен быць лепшым гаспадаром у сваёй вёсцы, яго вучастак павінен быць паказальным для ўсіх сялян.

І Комсамол устанавіў „Дзень Ураджаю“. З году ў год правяраюцца дасягненьні ў сельскай гаспадарцы, наладжваюцца выстаўкі, выдаюцца прэміі лепшым гаспадаром. Цяпер „Дзень Ураджаю“— дзень усяго сялянства, а яго-ж устанавіў Комсамол.

І недарэмна наш комсамольскі поэта А. Бязыменскі пісаў у адным сваім вершы:

„Поросенок, вскормленый ячэйкой,
Должен быть первейшим на селе!“

## МАЛАТКОМ І ПЛУГАМ К НАВУЦЫ.

Фабзавучаў цяпер многа. Многія піонэры вучацца ў фабзавучах. Ёсьць піонэры пры школах сялянскай моладзі. А ці ведаюць яны, што першы фабзавуч, што першая ШСМ, што першая профшкола— справа рук комсамольскіх.

Комсамол паставіў пытаньне: трэба рабоча-сялянскай моладзі вучыцца, трэба ёй рыхтавацца быць вывучанымі, кваліфікаванымі рабочымі, вопытнымі, сьвядомымі сялянамі. І Комсамол організаваў школы. Савецкая ўлада і партыя падтрымалі Комсамол.

## ЮНЫЯ ПІОНЭРЫ—ДЗЕЦІ КАСТРЫЧНІКА.

Кастрычнік ускалыхнуў рабочыя гушчы, ускалыхнуў сялянства. І тыя, якія ў дні Кастрычніка „пад сталом хадзілі“, ня хочуць адставаць ад усіх. Яны хочуць рыхтавацца, хочуць выкоўваць з сябе моцных змагальнікаў за сусьветную рэволюцыю, умелых будаўнікоў социялізму.

Комсамол ведаў аб гэтым. Ён ясна чуў галасы дзетвары і ён узяў на сябе цяжкую задачу—сабраць, організаваць дзяцей рабочых і сялян, кіраваць імі, выхоўваць іх, дапамагаць ім рыхтавацца да барацьбы за справу рабочых.

Зьявіліся першыя атрады „юных спартакоў“, піонэраў. Павадырамі — комсамольцы, кіраўніком—Комсамол.

Тры атрады было ў 1923 г., цяпер— сотні. Ня ведалі, што рабіць, якую весьці працу, а цяпер—курсы павадыроў, кніжкі, часопісь, клюбы, форпосты. Піонэрскі рух расьце і мацнее.

## БУДАЎНІЦТВА СОЦЫЯЛІЗМУ—СПРАВА СЯГОНЕШНЯГА ДНЯ.

Дзевяць гадоў прайшло з таго дня, калі пяць бязвусых маладых хлапцоў пісалі на лісткох паперы першую комсамольскую абвестку. Замест дзесятка-двух першых комсамольцаў — многатысячная комсамольская армія.

Тысячы маладых рабочых і сялян прайшлі школу комсамолу, сталі моцнымі, упартымі працаўнікамі—комуністымі. Тысячы маладых рабочых засядаюць у заўкомах, у праўленьнях профсаюзаў, вырашаюць пытаньні палепшаньня вытворчасьці ў вытворчых нарадах. Тысячы маладых сялян працуюць у сельсаветах, у райвыканкомах, кіруюць жыцьцём савецкай вёскі.

І ўсе дзевяць гадоў ніводнага дня, ніводнай хвіліны без кіраўніцтва комуністычнай партыі. Комсамол—лепшы памоцнік. Гэта ведала партыя і Комсамол сваё заданьне выконваў. Кожны раз, калі перад партыяй паўставалі важнейшыя задачы, Комсамол быў з партыяй, ён дапамагаў ёй.

Л. Розэнблюм.

# Бунт падземных людзей

Апавяданьне **М. Былога.** Малюнкі **П. Гуткоўскага.**

*(Працяг).*

### III. Чырвоныя пікі.

Калі раніцою Бай-Цзы адчыніў дзьверы, ды напароўся на Шы-Ку-Цзяна, то пачаў лаяцца:

— Ты чаго гэта сюды забраўся? Чаго табе тут трэба? Я цябе ня клікаў! Пайшоў прэч, сабака!

А калі выявілася, што Шы-Ку-Цзян мёртвы, дык Бай-Цзы яшчэ болей раззлаваўся:

— Ах, паганы! Вось што надумаў! Гэта, каб не плаціць доўгу! Усяго ад іх чакаць можна!

Прышоў мясцовы прадстаўнік улады, зьявіліся сьведкі. Усё-ж такі для Бай-Цзы справа была няпрыемная: адчувалася, нібы ён меў да гэтага нейкае дачыненьне. Але з фармальнага боку справа была простая. Запісалі, што Шы-Ку-Цзян зрабіў самагубства,—і на тым справа скончылася.

Аднак заставаўся яшчэ адзін клопат для Бай-Цзы. Куды дзець гэтага мерцьвяка? Хто павінен клапаціцца, каб пахаваць яго?

— І навошта мне ўсё гэта здалося?— злаваў Бай-Цзы,—вось ня было клопату!

Тым часам у цясьніне жыцьцё ішло сваім парадкам. Людзі поркаліся ля сваіх нораў і нічога ня ведалі. Толькі Шы-Ку-Ан з маткаю трывожыліся, што бацька так рана і няпрыметна зьнік, але ім нічога не заставалася, як толькі чакаць.

І вось неспадзявана наверсе зашуршэла, потым у паветры мільганула нешта цёмнае і, нарэшце, сярод людзей грукнулася цела Шы-Ку-Цзяна. Разам з гэтым зьверху данёсься голас:

— Хавайце сабе свайго сябра!

Кінулася да яго жонка і сын, атачылі людзі. Угледзеўшы рану, адразу здагадаліся, у чым справа, бо падобная сьмерць у Кітаі ня дзіва.

Дзяды паківалі галовамі, уздыхнулі і сказалі:

— Бядак Шы-Ку-Цзян. Адышоў на той сьвет. Але-ж затое загінуў слаўнаю сьмерцю. Прынамсі адамсьціў гэтаму праклятаму Бай-Цзы.

Але моладзь разважала іначай:

— Ну, не! Лепш ужо было спачатку выпусьціць кішкі гэтаму Бай-Цзы, а потым, калі трэба,—сабе.

А Шы-Ку-Ан стаяў на каленях перад бацькам і думаў:

— Я зраблю йначай...

---

З кожным днём рух па дарозе ўзмацняўся. Усё болей войска ішло з поўдня на поўнач. І ўсё болей рабавалі і рабавалі яны сялян. Ужо ніводнай жывёліны немагчыма было трымаць. Прышлося рэшту яе загнаць далей у адну з глухіх бакавых цясьнін, схаваць там і апошнюю маемасьць, пакуль скончыцца гэта навала.

А канец нейкі набліжаўся. Казалі што мукдэнцы разьбіты і адыходзяць дамоў, а з поўдня набліжаецца рэвалюцыйнае войска гоміндану *), што кіруе ім рэвалюцыйны генэрал Чан-Кай-Шы.

У гэты час невядома адкуль зьявіўся „вандроўны тэатр“. Складаўся гэты тэатр з аднаго чалавека, скрыначкі і дзесяткаў двух цвыркуноў, тых самых звычайных цвыркуноў, што цвыркаюць у нас запеччу. Вось гэтыя цвыркуны і былі акторы: яны біліся між сабою лепш за нашых барцоў у цырках.

Хоць не такая была пара, каб цешыцца цвыркунамі, але гледачоў не бракавала. Кітайца хлебам не кармі, але толькі пакажы бойку цвыркуноў. А тутака як раз і чалавек трапіўся добры: нават грошы ня браў за глядзеньне.

*) Нацыянальна-рэвалюцыйная партыя Кітаю.

Апрача таго, ён быў чалавек бывалы і дасканала ведаў усё, што робіцца на сьвеце, асабліва ў сучасны момант. Ён казаў, што мукдэнцы ворагі народу, што яны прадаліся „ін-чуй-цза“ („заморскім чарцям“, эўропэйцам), што толькі кантонскае войска стаіць за народ, што ўсе павінны дапамагаць яму, асабліва цяпер, калі мукдэнцы ўцякаюць. А самае галоўнае—тады абрэжуць багатых і падзеляць зямлю між беднякамі.

Няма чаго казаць, як слухала ўся гэта галота такую гаворку, асабліва наконт зямлі.

—Эх, каб атрымаць зямлі крокаў на 30!—марыў гаспадар, які меў 2 крокі зямлі.



Вакол агню сядзела некалькі чалавек.

На другі дзень прышлы чалавек зьнік, а разам з ім Шы-Ку-Ан і яшчэ восем хлапцоў.

* * *

Стаяла ноч. Цёплая, ціхая і цёмная. Ваколіцы спалі. Спалі і цясьніны, запоўненыя белым туманам. Нідзе ніводнай душы. Зрэдку забрэша сабака.

Але, калі ўважліва прыслухацца, дык можна заўважыць некаторыя гукі, якія сьведчаць, што не такі ўжо спакой навокал, як здаецца. Перш за ўсё з поўдня даносіцца нейкі грукат, нібы гром, нібы гарматная страляніна. А вось у некалькіх мясцох па дарозе, як у цясьніне, таксама і наверсе, пачуўся тупат, бразганьне: відаць, ідзе войска...

А ля аднэй далёкай і глухой бакавой цясьніны ўвесь час мільгаюць ціхія цені. Бязшумна выныраюць яны з усіх бакоў, нібы з-пад зямлі, і зноў правальваюцца ў зямлю.

Падышлі сюды і Шы-Ку-Ан са сваімі таварышамі, на чале з „цвыркуншчыкамі“. Зараз-жа перад імі вырасла постаць з пікай у руцэ.

— Хто ідзе?

— Суп і народ,—адказаў цвыркуншчык, і чалавек з пікай зноў зьнік.

Яны спусьціліся ўніз. Там у яру, зачыненым з усіх бакоў, сабралася ўжо шмат народу. Увесь іх выгляд сьведчыў, што гэта ўсё такі самы падземны народ, як і Шы-Ку-Ан з сябрамі. Толькі ўсе былі ўзброены чым папала: большасьць мела доўгія бамбукавыя пікі, але сустракаліся і стрэльбы і рэвольвэры.

У адным куту, схаваны пад выступам, гарэў агонь. Вакол яго сядзела некалькі чалавек, відаць начальнікаў, і аб чымсьці радзіліся. Сюды праціснуўся і наш цвыркуншчык.

— Ну, як?—зьвярнуліся да яго.

— Усё добра. Прывёў яшчэ 9 чалавек з цясьніны Кой-Фу. Рэшта насельніцтва таксама гатова дзейнічаць.

Праз некаторы час пачалася агульная нарада. З прамовай выступіў „цвыркуншчык“. Чалавек 400 народу згуртавалася навакол і падрыхтавалася слухаць.

— Таварышы!—пачаў прамоўца.—Прышоў час, калі нашы „Чырвоныя Пікі“ могуць нанесьці рашучы ўдар ворагу. Я толькі што прышоў адтуль. Паўночныя бандыты разьбіты, яны ўцякаюць з рэволюцыйнага войска. Праз дзень-два

прыдуць нашыя вызваліцелі. Неабходна дапамагчы ім, ударыць у тыл адыходзячаму войску. Ці гатовы вы на гэта?

— Гатовы! Даўно чакаем гэтага часу!— загукалі навокал.

Далей прамоўца высьвятліў становішча падрабязна. Потым абмеркавалі плян, вызначылі, калі, што і як рабіць. Кожны атрымаў заданьне, умовіліся, як трымаць сувязь і г. д.

Праз гадзіны тры сход растаў і зьнік, нібы яго зусім ня было. А навакол, як і раней, панавала ціхая, цёплая, цёмная ноч.

На ўсходзе ўжо засьвятлелася, калі Шы-Ку-Ан са сваімі таварышамі падыходзіў да дому. З імі было яшчэ 16 чалавек чужых таварышаў. На ўвесь атрад было дадзена 2 рэвальвэры і адна вінтоўка. Рэшта мела толькі бамбукавыя кіі—пікі.

Па дарозе ім трапіўся невялікі вайсковы абоз. Добра было-б у цемры напасьці на яго! Але нельга было: самавольным учынкам можна было сапсаваць увесь плян. Прышлося схавацца ад яго.

Але ля дому яны пачулі знаёмы звон і ўбачылі, што насустрач нясецца той самы мандарын у сваім паланкіне. Людзі, што несьлі яго, змарыліся, саплі, як коні, але мандарын усё пакрыкваў, каб хутчэй беглі. Слугі з муламі і ахова ледзь пасьпявалі за ім.

Убачыўшы мандарына, Шы-Ку-Ан аж затросься ад злосьці.

— Таварышы!—зьвярнуўся ён да сваіх,—няўжо-ж мы ўпусьцім гэтага сабаку? Аховы толькі 8 чалавек, а нас—25.

— Нельга: мы папсуем усю справу,— сказалі чужыя таварышы, але свае маўчалі і нібы згаджаліся. Але не пасьпелі яны вырашыць справу, як Шы-Ку-Ан кінуўся наперад, выхапіў рэвальвэр, стрэльнуў і крыкнуў: „Стой!“

Яго таварышам ужо нельга было разважаць. Калі яны ня кінуцца на дапамогу, дык самі загінуць. Не пасьпелі салдаты апамятацца, як пяцёра з іх былі схоплены і не маглі пусьціць у ход сваю зброю. Насільшчыкі кінулі на зямлю свайго мандарына і разам з другімі слугамі пабеглі назад. Але ім насустрач ужо высыпаў народ з сваіх нораў.

— Трымайце іх!—крыкнуў Шы-Ку-Ан.

Апошнія тры салдаты пачалі страляць але супроць іх ужо было чалавек 20, з якіх ужо 6 мелі вінтоўкі.

— Здавайцеся! Усё роўна вам тром не ўстаяць супроць усіх! Салдаты і самі гэта бачылі і зараз-жа здаліся. У выніку ўсёй схваткі быў толькі лёгка паранены адзін з нападаўшых. Жыхары тымчасам затрымалі слуг, але самы трэсьліся ад страху перед такой сьмеласьцю.

А мандарын сядзеў у сваім паланкіне, вылупіўшы вочы, і ня ведаў, што рабіць. Нарэшце, калі ўбачыў, што застаўся жывы, набраўся харобрасьці і пачаў страшыць.

— Што вы робіце, няшчасныя?! За гэта-ж вам усім галовы пазьнімаюць. Ды я-ж вам...

— Годзі, будзе, „вялікі пан“,—перабіў Шы-Ку-Ан,—калі яшчэ гэта будзе, а пакуль што дамо яму, таварышы, бамбукоў з пяць-дзесяць?

— Добрая рэч. Хай пакаштуе і ён!— зарагаталі навакол. Толькі старыя баязьліва дрыжалі ды адмаўлялі.

І на тым месцы, дзе нядаўна білі Шы-Ку-Ана, паклалі цяпер самога мандарына. Той ужо і страшыць кінуў, ужо прасіцца пачаў:

— Не рабеце гвалту, дзеці мае. Ня псуйце сваёй душы. Я за гэта дам вам шмат грошай.

— Мы і самі возьмем іх,—адказалі яму.

Тады Шы-Ку-Ан падышоў да слуг і сказаў:

— Таварышы! Прапаную вам вялікі гонар: адлупцаваць свайго пана.

Слугі маўчалі.

— А калі ня згодзіцеся па добрай волі, дык мы прымусім вас,—і Шы Ку-Ан выцягнуў рэвальвэр.

Тады насільшчыкі перамігнуліся, штурханулі адзін аднаго пад бок і выступілі наперад.

Боязна было толькі пачынаць, а калі пашлі адлічваць бамбукі па пятках, калі мандарын зароў ад болю, як кожны просты чалавек, дык усім стала весела.

А Чын-Фу, той самы, што кленчыў перад мандарынам за сваю сьвіньню, дык той нават суцяшаць стаў небаракумандарына:

— Пацярпі, вялікі добры пан. Усе церпяць, пацярпі і ты. Дзяды нашыя вучылі ўсіх нас цярпець.

— Пасьля такой „рапарацыі" аднесьлі мандарына ў падземны пакой, туды-ж паставілі і мулаў, а мандарынава дабро падзялілі паміж жыхарствам Кой-Фу.

Да мандарынавых-жа спадарожнікаў Шы-Ку-Ан зьвярнуўся з наступным словам:

— Супроць вас, таварышы, мы нічога ня маем. Вы такія самыя, як і мы. Але, каб хто з вас загадзя не нарабіў трывогі, мы прымушаны часова і вас затрымаць.



— Пацярпі, вялікі добры пан!

Тут выступіў насільшчык:

— Нас затрымліваць і пільнаваць няма чаго. Пасьля таго, як мы адлупцавалі свайго пана, мы ўжо ня маем дарогі назад. Мы будзем з вамі за адно.

Праз некалькі хвілін цясьніна ізноў прыняла свой звычайны выгляд. Нішто ня сьведчыла аб тым, што тутака толькі што падземная галота дала бамбукоў самому мандарыну.

А далёкі грукат бойкі ўсё набліжаўся з паўдня. Вось пацягнуліся і галоўныя масы мукдэнскага войска, з конямі, з артылерыяй. Яны ішлі да цямна. А калі сьцямнела, выпаўзьлі з нораў нашыя „Чырвоныя Пікі" і пачалі нешта падрыхтоўваць. Падпілавалі некалькі дрэў наверсе, набралі align лямачча. Відаць, і насельніцтва ведала, дзеля чаго гэта робіцца, і старанна дапамагала.

Вось далёка наперадзе загрукаталі стрэлы. Разам з гэтым заварушыўся і ўвесь народ, і ў адзін момант самае вузкае месца ў цясьніне было завалена дрэвамі і ламаччам. Нават мандарынаў паланкін прыгадзіўся.

А там далей ужо заварылася каша. За некалькі кілёмэтраў адсюль, у такімжа вузкім месцы войска напаролася на барыкаду, за якой было чалавек 300 „Чырвоных Пік", а чалавек 500 разьмясьцілася наверсе, на краю абрыва. Калі дадаць да гэтага цемру, дык можна сабе ўявіць, што павінна было рабіцца ў цясьніне. Хто пробаваў лезьці наверх,—сустракаў піку, хто кідаўся ў бакавую цясьніну,—сустракаў барыкады і стрэлы.

Тады кінуліся назад і напароліся на барыкаду, пабудованую жыхарамі Кой-Фу. У гэтай шчыліне 9 вінтовак маглі стрымліваць цэлы полк.

Але вось і ззаду пачуўся шум, а потым страляніна.

— Мукдэнцы з-заду!— пачуліся жудасныя крыкі.

Аказваецца, падышоў новы атрад мукдэнцаў, і нашыя партызаны самі апынуліся між двух агнёў. Нічога больш не заставалася, як уцякаць і хавацца ў свае хаты-норы. Хто пасьпеў, той гэтак і зрабіў.

Але бойка ня спынілася. З таго боку барыкады йшла шалёная страляніна. Прыбыўшыя, зразумела, не маўчалі. З абодвых бакоў заляскаталі кулямёты, а потым нават і гарматы.

А партызаны сядзелі ў сваіх норах і наглядалі, як вораг б'е адзін другога.

— Добра б'юцца, куды лепш за нас— паціраў рукі Шы-Ку-Ан.—Хай ім дапаможа добры дух.

Толькі праз гадзіну заўважылі салдаты, што яны б'юць саміх сябе. Але было ўжо позна: ззаду ізноў пачуліся стрэлы, але на гэты раз ужо гомінданцаў.

Цяперака справа пайшла інакш. Мукдэнцы нават і не бараніліся, калі даведаліся, што падышло гомінданаўскае

войска, усё роўна ніякага выйсьця ня было.

Увесь наступны дзень разьмяркоўвалі палонных мукдэнцаў і іх маемасьць. У ліку палонных быў і мандарын. „Чырвоныя Пікі“, заместа бамбукавых пік, набылі вінтоўкі. Гомінданаўскі генэрал шчыра дзякаваў партызанаў і прызначыў іх правадыра, Ці-Сю, галоўным начальнікам усяго гэтага раёну. Зараз-жа Ці-Сю прызначыў малодшых начальнікаў па валасьцёх, і ў тым ліку ў сваёй ваколіцы быў Шы-Ку-Ан.

А на другі дзень войска пайшло далей на поўнач.

### ІУ. Ізноў спачатку.

Радасьць захапіла ўсіх падземных людзей. Дачакаліся, нарэшце, і яны таго часу, калі самі сталі ўладарамі сваёй зямлі. Павылазілі яны са сваіх нор наверх, ужо сьмела, адкрыта, не хаваючыся і парашылі падзяліць між усімі ўсю зямлю ў сваім раёне.

Праз некаторы час быў атрыман загад гомінданаўскага ўраду: аддаць усё захопленае гаспадарам і ў далейшым не рабіць самачынных учынкаў.

Ці-Сю сабраў нараду мясцовых кіраўнікоў.

— А хто-ж гэта загадвае? — казалі іншыя?—мусіць, тая самая старая ўлада.

— Начальнік, праўда, стары, але ўрад гомінданаўскі новы.

— Гэта здрада!—крычалі гарачыя галовы.—Ня трэба слухацца іх.

Але праз некалькі дзён прышла новая папера, а ўслед за ёй новы начальнік, прызначаны заместа Ці-Сю. Разам з ім атрад з 20 чалавек.

Калі даведаўся аб гэтым народ, дык не паверыў, што гэта гомінданаўцы, якім яны надойчы дапамагалі.

— Мукдэнцы ізноў прышлі,—пайшоў кліч па падзямельлях, і праз некалькі гадзін новы начальнік са сваім атрадам быў прагнаны.

Ці-Сю ізноў сабраў нараду, больш пашыраную і паставіў гостра пытаньне: ці падпарадкавацца, ці ваяваць? Выявілася, што агульны настрой бадзёры, што цяперака паўстануць ня толькі „Чырвоныя Пікі“, але і ўвесь падземны народ. Значыцца, можна ваяваць, тым болей, што цяпер яны маюць шмат вінтовак.

І вайна пачалася. Цягнулася яна для тыдні. Спачатку зьявілася толькі 100 салдат, потым падышло 300; далей яшчэ 500. Але „Чырвоныя Пікі“ былі пераможаны.

Апошні атрад партызанаў з 200 чалавек, у ліку якіх быў і Ці-Сю, і „цвыркуншчык“, і Шы-Ку-Ан і ўсе лепшыя партызаны,—быў абкружаны на полі, але... праваліўся скрозь зямлю. Калі салдаты падышлі бліжэй, дык заўважылі, што гэта была падземная вёска.

Была прапанова ўсім выйсьці пад пагрозай зруйнаваньня памяшканьняў. Павылазілі жанчыны з дзецьмі, старыя, хворыя, некалькі здаровых мужчын, але атрад ня вылез. Пачалі кідаць у сярэдзіну бомбы, потым наступова занялі ўсе памяшканьні, але партызанаў не знайшлі. Заместа іх знайшлі толькі забітага Бай-Цзу.

Праз некалькі месяцаў сталі даходзіць чуткі, што Ці-Сю, Шы-Ку-Ан і ўсе іншыя сябры загінуўшага атраду—жывы і знаходзяцца ў шэрагах рэволюцыйнага генэрала Іе-Ціна, які вядзе барацьбу ўжо з гомінданаўцамі.

Як гэта магло здарыцца?

А вось як: адно з падземных памяшканьняў мела выхад у суседні яр. Праз гэты ход і выбраліся партызаны. А Шы-Ку-Ан на ўсякі выпадак, як заложніка, захапіў з сабой Бай-Цзу. Калі выявілася што трэба ўцякаць, дык Шы-Ку Ан адамсьціў яму за бацьку, пасвойму, пановаму.

*(Канец).*



# Пра ўдалага Ян

*Верш для*

Хто гэта?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .



Шастапал Янка,
Якому нават ваўкі—
Гулянка!
Плечы ў яго—вось!
Цяглiцы таксама, як у кагось.
А што да кулачка, —
Забiў-бы, здэцца, парсючка.
А дзе жыве гэты хлапчына?
Жыве ён на вёсцы
„Перакосцы“,
Трэцяя хата з таго краю,
Дзе з вярбой вецер гуляе.
Што-ж гэта за вёска?
У „Перакосцах“,
Як звычайна на вёсцы:
Хата каля хаты, —
Дзядзькi Пётры, Мiкiты, а далей
Iгнатава.



На двары ў Iгната паветка,
Пад паветкай „Валетка“:
Не хадзi чужы каля хаты
Дзядзькi Iгната!
У Пётры суседа
Каза непаседа,
У Мар'i удоўкi—
Кароўкi.
У дзедкi Мiхася
Было два гуся;
Аднаго прыдушыў Валетка,
Аж заплакаў дзедка!
Годзi!
А вакол вёскi што?
Ну, вядома, лесу строма,
А ў лесе зьвяроў,—
Беражы авечак ды кароў!
Мядзьведзь буры
З мядзьведзiхай панурай.
Пасьля воўк,
Авец тоўк,
А там i лiска зладзяюшка,—



# ку шастапалага.

*акцябрат.*

Сьцеражыся квакушка!
Хто з іх самы злаўрэда?
Як для вясковага люду,
Дык воўк—паскуда:
Устае рана,
Ды цап на сьняданак барана.
А на абедзе,
Калі зноў пад'едзе,
Дык не дарма,—
Ягня, а то і двох—няма!
Ну?
Ну, сяляне бачаць, справа дрэнь:
Пайшлі яны ў лес,
Воўчую сьцежку адшукалі,
На ёй вялікаю яму выкапалі,
Пакрылі гальлём,
Засыпалі гальлё зямлёй,
Ды кавалак мяса на ёй паклалі.
Далей што, цікава?
Вось да сонца, рана,
Воўк бяжыць па барана.
Да мяса ён палак,—
Бяжыць, ляжыць кавалак...
Аж дзерганўў жыватом,
Шавяльнуў хвастом,
Ляснуў зубам,
Крутнуўся шрубам,
Задыбіў поўсьці кусок,
Ды на мяса—скок!
Насьціл праваліўся,—
Зарыўся!
Тут яго, шэрага, і зацапалі!
Ну, а Янка тут прычым?
Ого, Янка!
Пачуўшы пра тое ад маткі,
Кінуў і аладкі,
Ды за хлапцамі маланкай.
Ну?
Ну, прыбег, паглядзеў,
І нават ня спужаўся ані,—
Вось ты пра яго й гамані!

**Міх. Грамыка.** *(З расійскага).*







# ПРЫРОДА—НАВУКА—ТЭХНІКА.

## Гісторыя аўтамабіля.

Вы йдзяце па вуліцы гораду. Раптам ззаду вас раздаецца гудок аўтамабільнага ражка. Вы, спалохаўшыся, адскакваеце ў бок і аўтамабіль, апырскаўшы вас гразёю, хутка праносіцца далей. Вы на



„Аўтамабіль“ на трох колах.

хвіліну спыняецеся, але не таму, што вас зацікавіла гэта машына і вам хочацца паглядзець на яе. Не.

Аўтамабіль ня цікавіць вас і калі-б ня гразь на вашай вопратцы, якую вы тутжа абчышчаеце, вылаяўшы пры гэтым пра сябе шофэра, дык, напэўна, вы і не зьвярнулі-б увагі на гэту машыну—настолькі яна здаецца звычайнай. Але калі спытацца ў вас:

„А ці ведаеце вы, як людзі дадумаліся да гэтай „звычайнай“, на ваш погляд, машыны?“—Напэўна, большасьць з вас адкажа:

„Не, ня ведаем“.

Аднак, аўтамабіль, як і кожная вынаходка (радыё, параход, самалёт), мае сваю, вельмі цікавую гісторыю. Вось гэту гісторыю і паслухайце.

Першыя спробы перасоўвацца па зямлі без дапамогі коняй рабіліся яшчэ 3.000 год таму назад у Грэцыі. У старажытніх летапісах ёсьць запісы аб тым, што ў Атэнах (сталіцы Грэцыі) быў зроблены экіпаж, які перасоўваўся нявольнікамі, схаванымі ў сярэдзіне яго. У пазьнейшых летапісах апісваецца шмат розных павозак, якія перасоўваліся з дапамогаю „жывых рухавікоў“—людзей.

Так, напрыклад, у сярэдзіне XVII-га стагодзьдзя немец Іоан Ганшт з гораду Нюрнбэргу пабудаваў павозку на чатырох колах, якая перасоўвалася з дапамогаю зубчатай перадачы, сілаю рукі чалавека. Ідэю Ганшта выкарыстаў нюрэнбэргскі гадзіншчык Стэфан Форфлер, які зрабіў такую-ж мэханічную павозку, але толькі на трох колах. Зразумела, што практычнага значэньня гэтыя вынаходкі ня мелі з тае прычыны, што хуткасьць перасоўваньня на такіх павозках была вельмі малая, і, апрача таго, на перасоўваньне іх затрачвалася шмат сілы.

Прайшло каля 100 гадоў. У 1769 годзе Джэмс Уат вынайшаў паравую машыну. І вось у розных краінах зьявілася шмат вынаходцаў, якія пачалі рабіць мэханічныя павозкі з паравой цягай.

Адным з першых, хто выкарыстаў паравую машыну для перасоўваньня па зямлі, быў француз *Куньё*. Яго павозка з паравой цягай, ці гэтак званы *„парамабіль“* мог перасоўвацца з нязначнай хуткасьцю—6 вёрст у гадзіну. Але ў той час і гэта было дасягненьнем.

Пасьля Куньё было пабудавана яшчэ шмат самаходаў з паравой цягай, але ўсе яны мелі шмат недахватаў. Яны былі



„Аўтамабіль“—экіпаж.

надта вялізныя і нявыгодныя, а хуткасьць перасоўваньня іх была вельмі нязначная.

Толькі з вынаходкаю бэнзынавых рухавікоў унутранага згараньня справа з пабудовай самаходаў пасунулася значна ўперад. У 1883 г. нямецкі інжынэр *Готліб Даймлер,* якога лічаць вынаходцам

сучаснага аўтамабіля, зрабіў першы аўтамабільны рухавік унутранага згараньня. Дзякуючы сваёй настойлівасьці і няўтомнай энэргіі яму ўдалося пабудаваць у 1889 г. першы маторны экіпаж на 4-х колах, які атрымаў назву *„аўтамабіль“*.

У той-жа час другі немец *Карл Бэнц* таксама працаваў над пабудовай аўтамабіля. Пасьля некалькіх месяцаў упартае працы, Бэнц зьявіўся на сваім аўтамабілі на вуліцах роднага гораду Мангэйма. Аўтамабіль яго хрыпеў, хістаўся і выпушчаў смуродныя пары бэнзыны. Сабраўся натаўп людзей паглядзець на гэтае дзіва. Раптам нехта крыкнуў, што Бэнц прадаўся чорту. У *Бэнца пасыпаліся каменьні,* аднак яму ўдалося выратавацца і схаваць сваю машыну.

Ня гледзячы на гэту няўдачу, ён ня спыняў сваёй працы і ў хуткім часе аўтамабілі Бэнца і Даймлера пачалі распаўсюджвацца па Эўропе і Амэрыцы.

У гісторыі разьвіцьця аўтамабіля вялікае значэньне мела вынаходка гумовай пнэўматычнай шыны *) для колаў, дзякуючы якой можна было павялічыць хуткасьць ходу аўтамабіля, ня рызыкуючы паломкай машыны ад страсеньняў.

У сучасны момант аўтамабілі атрымалі шырокае распаўсюджаньне. У аднэй толькі Амэрыцы іх маецца каля 20 мільёнаў, іначай кажучы, на кожных пяць чалавек прыходзіцца адзін аўтамабіль. Вядомы аўтамабільны завод Форда ў Амэрыцы выпушчае штодзенна 4.000 аўтамабіляй.

У нашым Саюзе аўтапрамысловасьць



Сучасны аўтамабіль

толькі пачынае яшчэ разьвівацца, але дасягнутыя ўжо вынікі даюць упэўненасьць у тым, што ў недалёкай будучыне ў нас будзе шмат сваіх аўтамабіляй, з дапамогаю якіх мы пераможам нашы прасторы.

**В. Суднік.**

*) Шына, у якую напампоўваецца паветра.

# Усе зьвяры—браты *).

Вялікая клетка з пацукамі стаіць у мяне на вакне. Пацукі, як заўсёды, выконваюць свой любімы занятак, яны спакойна сабе ўмываюцца, „волас да воласу кладуць“. Я праходжу міма, успамінаю пра ката, якога толькі што гладзіў і клічу.

— Кыс, кыс, кыс...

Ён падыходзіць, паважна ступаючы мягкімі аксамітнымі лапкамі. Я бяру яго і саджаю поруч з клеткай.

Што за перапалох пачаўся ў маленькай хатцы пацукоў! Са страхам кінуліся яны ў процілеглы канец клеткі і прыціснуліся ўсе адзін да аднаго. У гэтай кучцы жывых целаў шавяліліся толькі вусікі ды шэрсьць на бакох ад моцнага трэпету сэрца.

Кот абабег некалькі раз вакол клеткі і сеў перад пацукамі. У натуры катоў ёсьць адна рыса, агульная, між іншым, для ўсіх жывёлаў: усё, што хутка рухаецца—раздражняе ў іх нэрвы і ўзбуджае апэтыт, але, калі толькі рух гэты спыніцца, кот зусім спакойна адыходзіць далей ад гэтай рэчы. Гэтак часта бывае, што кот, задушыўшы пацука, зараз жа пакідае зьвяртаць на яго ўвагу.

Зразумела, што калі толькі адзін з пацукоў кінуўся да іншых, ад страху хаваючы сваю галаву паміж імі, кот зашавя-

*) Адрывак з кнігі Дурава „Мои звери“.

ліўся і накінуўся на клетку, абнімаючы яе сваімі лапкамі.

Але пацукі сядзелі, цесна прытуліўшыся адзін да другога.

Кот адвярнуўся і зрабіў такі адвод, што быццам ён забыўся аб пацуках, толькі хутка шавяліўся кончык яго хваста, ды высоўваліся яго крывыя пазуры. А вочы хітрага ката сажмурыліся так, як быццам ён хацеў сказаць: ведаць я вас ня ведаю.

Раптам адзін з трусьлівых пацукоў, які ня моцна трымаўся на версе, сарваўся, сасьлізнуўся ўніз і зноў папоўз на гару, утвораную з целаў пацукоў.

Па шкурцы ката прабеглі дрыжыкі. Шкурка на сьпіне нэрвова калацілася, вушы шчыльней прытульваліся да галавы...

Я паднёс да ката спадачак з малаком, паранае сырое мяса—кот ні на што не зьвяртае ўвагі. Ён марыць толькі аб пацуках... Але дастаць праз клетку ён ня можа ніводнага з іх, і чакае.

Прывычка—другая натура і пацукі памаленьку прывыкаюць да таго, хто прымушаў так калаціцца іх сэрцам. Цяпер няпрыемны для іх запах ката прынюхаўся, і, доўга чакаючы, яны страцілі вастрату першапачатковага страху.

Адзін з пацукоў, скінуўшыся зьверху, з гары пацуковых цел, парашыў, відаць, не падымацца назад і пачаў прыхарашывацца, умывацца і прычэсвацца.

Кот нагнуў галаву, ня зводзячы вачэй з пацукоў, кончыкамі сваіх вусоў папаў у спадачак з малаком, страсануў галавой, адсунуўся далей ад клеткі і зноў сеў, абхінуўшы сябе хвастом.

Але пацукі адважыліся бліжэй пазнаёміцца з тым, хто і ня думаў іх чапаць. Яны ўжо з цікавасьцю пачалі высоўваць свае ружовыя носікі, нюхаць паветра і станавіцца на заднія лапкі.

Кот абышоў клетку і сеў ужо бокам да пацукоў. І раптам дзіва: адзін з пацукоў да таго пасьмялеў, што падышоў, да загароды і ціха палез па пруціках наверх. Ён адчуў пах ад малака і мяса і пачаў уцягваць ў сябе асалоду паветра. Праз хвіліну за ім палезьлі наверх іншыя пацукі; становячыся ўсё сьмялейшымі і сьмялейшымі, яны пачалі бяз страху лазіць па столі клеткі, толькі на момант застываючы на месцы, калі кот зрабіў які-небудзь зрух. А неўзабаве яны перасталі на яго зьвяртаць увагу і пачалі на дне клеткі ў сене шукаць рэшткі сланэшніку.

Кату абрыдла наглядаць. Ён устаў, падняў хвост дугой і засьпяваў сваю звычайную песеньку. Я пагладзіў яго; ён пачаў есьці мяса.

Тады пацукі канчаткова пераканаліся ў тым, што небясьпекі ніякай няма, і абляпілі сьценкі клеткі, гледзячы з цікавасьцю на страшнага зьвера, да якога яны так прывыклі, што перасталі баяцца.

З гэтага часу я працягваў акуратна кожны дзень свае ранейшыя вопыты: падносіў клетку з пацукамі да ката і пацукі канчаткова пасябравалі з катом.

На наступны дзень я дасягнуў таго, што кот, наеўшыся, узьлез на клетку і лёг на ёй спаць, зусім не зьвяртаючы ўвагі на пацукоў.

Урэшце я парашыў аднэй раніцай зусім блізка пазнаёміць старых ворагаў. Я адчыніў дзьверы клеткі і, узяўшы абедзьвума рукамі ката, сілаю сунуў яго галаву наперад, у клетку. Пацукі шмыгнулі ў працілеглы канец клеткі.

Кот быў незадаволены. Ён упіраўся лапкамі ў край клеткі, але галава і пярэдняя частка тулава яго ўжо ўлезьлі ў сярэдзіну. Я прытрымліваў на ўсякі выпадак яго лапы. Кот, цесна прыціскаючы вушы да галавы, моршчыўся...

Але вось я губамі раблю вядомы заклікаючы піск, і жывая куча ўся, як па камандзе, узьнімаецца на заднія лапкі і цягнецца ў напрамку да ката.

Кот адсоўваецца, хоча вызваліцца, але я трымаю яго моцна. Пацукі сьмялей цягнуцца да ката... Вось яны ўжо з усіх бакоў баязьліва яшчэ абнюхваюць ворага, а адна нават сядзіць у мяне на руцэ і асьцярожна дрэпае зубамі кіпцюр ката.

На наступны дзень я саджаю ката ў клетку, запіраю за ім дзьверцы і гляджу, як мае палахлівыя пацукі падыходзяць да яго з усіх бакоў, цягнуцца, седзячы на задніх лапках, да яго шэрсьці і, абнюхаўшы, ужо мала зьвяртаюць на яго ўвагі.

Што было тут далей!

Вялікі кот, у якога загараліся яшчэ так нядаўна вочы, калі ён бачыў пацука, палохаўся і ўцягваў у сябе галаву, калі пацукі да яго набліжаліся. А яны, ужо канчаткова згубіўшы страх, вялі сябе з

ім, як з роўным; узлазілі на яго і разьмяшчаліся спакойна ў яго цёплай мяккай шкуры.

Урэшце, яны елі з ім з аднэй міскі хлеб, намочаны ў малацэ, часта выpываючы ў ката з рота страву, і клаліся спаць, захіняючыся ў яго воўну. Прачынаючыся, кот будзіў пацукоў, пачынаючы гуляць з імі лапкай.

Тады я пачаў вучыць іх, рыхтуючыся да орыгінальнага прадстаўленьня: „Няма болей ворагаў“.

Я вучыў маіх чацьвераногіх сяброў працаваць на вяроўцы.

Туга нацягнутая ў цырку вяроўка. Я саджаю на яе пацукоў і прыношу да іх ката. І раптам... кот грозна выпускае кіпцюры і дрэпае імі па вяроўцы, як быццам жадаючы кінуцца на пацукоў.

Я кажу:

— Вось тут пацукі прадстаўляюць белых рабоў—тэлеграфных і паштовых чыноўнікаў, а кот—іх лютага начальніка. А ну, чыноўнікі, падыходзьце да начальства.

Пацукі, якія бліжэй да ката, сьмела бягуць наперад і працягваюць сваe мордачкі.

— Зьвярнеце ўвагу,—кажу я,—як кот цалуецца з пацукамі.

І пацукі сунуць да ката свае мордачкі.

Публіка шле гэтаму воплескі і зьдзіўленьне. Чуваць выгукі:

— Як гэта можна прымусіць пацукоў цалаваць гэтага лютага для іх ката, які гастрыў на іх свае кіпцюры?

А справа была зусім ня так: кот быў ня люты, а сонны. Ката бралі на прадстаўленьне зараз-жа пасьля сну; ён выпраўляў сваё цела, пацягваючы і дрэпаючы вяроўку, як быццам гастрыў аб яе кіпцюры, рыхтуючыся кінуцца на пацукоў, а пацукі, пачуўшы мой піск і знаёмы прыемны для іх пах прынесенай клеткі, беглі да яе праз ката, які трапіўся ім на дарозе.

— Глядзеце, — казаў я,—як кот цалуецца з пацуком. Я пагадзіў паміж сабою такіх лютых ворагаў.

І пагоджаныя ворагі засталіся пасьля ў сяброўстве і дома, калі прыходзілі з прадстаўленьня. Мой белы кот спакойна спаў на сваім ложку, а пацукі клаліся ля яго пад бокам, дзе ім было цёпла, мягка і прыемна...



# Альлё! Цэнтральная!

Вы падыходзіце да тэлефоннага апарату, зьнімаеце трубку, гаворыце цэнтральнай станцыі патрэбны вам нумар, пасьля чаго маеце магчымасьць весьці вашу гутарку. Той хто размаўляе з вамі, знаходзіцца на адлегласьці некалькіх кварталаў ад вас, або можа нават і некалькіх дзесяткаў вёрст, але вы ясна чуеце яго голас і нават можаце па голасу пазнаць яго.

Як гэта адбываецца? Якім чынам па тонкім дроце, што працягнуты ад слупа да слупа, могуць перадавацца вашы словы? Напэўна, вы ня ряз цікавіліся гэтым пытаньнем. Дзеля таго, каб дакладна выясьніць гэта, разгледзім раней усяго пытаньне аб тым, што-ж наогул уяўляе сабою наш голас, якім чынам наогул мы чуем розныя гукі, у тым ліку і мову чалавека?



Як можна ўявіць сабе хваляваньне паветра і адчуваньне гука.

## Хваля паветра і вуха.

Калі возьмеце якую-небудзь мэталёвую пласьцінку і вытнеце ёю па чым-небудзь цьвёрдым, дык вы пачуеце гук, што вытварыўся пласьцінкай. А калі вы ўважна разгледзіце гэту пласьцінку, дык вы ўбачыце, што яна хутка, хутка хвалюецца, дрыжыць. Вось ад гэтага хваляваньня і атрымліваецца гук. Пры дрыжэньні пласьцінка разганяе ад сябе ў розныя бакі паветра, якое то расходзіцца то сходзіцца, ад чаго атрымліваецца альбо шум, альбо выразны гук. Такія-ж хвалі паветра ўтвараюцца, калі мы моцна стукаем дзьвярыма, гутарым, сьпяваем і г. д.

Гукі бываюць розныя. Калі наша пласьцінка ў адну сэкунду зробіць які-небудзь пэўны лік хваляваньняў, дык мы будзем чуць адзін гук, калі-ж яна будзе хвалявацца часьцей, дык мы атрымаем зусім іншы гук.

Цяпер нам становіцца больш зразумела, што калі нам удасца зрабіць так, каб мэталёвая пласьцінка хвалявалася то хутчэй, то павальней, дык мы можам атрымаць самыя рознастайныя гукі. А з гэтых рознастайных гукаў і атрымліваецца мова чалавека.

## Як жалеза можа хватаць і адпіхаць.

Значыцца, нам трэба прыстасаваць пласьцінку так, каб яна хвалявалася. У гэтай справе нам прыходзіць на дапамогу магнэз і электрычнасьць.

Магнэз, напэўна, шмат хто з вас бачыў. Магнэз—гэта такое жалеза, якое мае ўласьцівасьць прыцягваць да сябе другі кавалак жалеза альбо сталі.

Калі аб магнэз мы пашаруем кавалкам звычайнага жалеза, дык жалеза стане таксама „магнэзам". Такім чынам, мы бачым, што магнэзы могуць быць двух сартоў: натуральныя, альбо такія, якія маюць уласьцівасьць прыцягваць самі па сабе, і штучныя, такія, якія становяцца магнэзам толькі пасьля таго, калі набяруцца шляхам шараваньня гэтай уласьцівасьці ад натуральнага магнэза.

Штучны магнэз можа атрымаць і іншым шляхам. Калі возьмем кавалак жалеза, абкруцім яго тонкім, медным дротам, завернутым у шаўковай матэрыі і прапусьцім па дроце электрычны ток, дык гэты кавалак жалеза стане магнэзам. Пераканацца ў гэтым вельмі лёгка: варта толькі паднесьці да жалезнага кавалка сталёвае пяро, якое хутка прыцягнецца да жалеза. Калі мы перапынім электрычны ток, дык жалеза раптам размагнэзіцца і пяро адкінецца. Такі магнэз завецца *электра-магнэзам,* гэта значыць магнэзам, які ўтвараецца пры дапамозе электрычнасьці. Прапускаючы электрычны ток па дроце, які наматаны на кавалку натуральнага магнэзу і пасьля перапыняючы яго, мы можам узмац-

няць або паслабляць прыцягальную сілу гэтага магнэзу. Вось гэта якраз і скарысталі тыя, хто вынайшаў тэлефон.

### Як зрабіць тэлефон.

Возьмем кавалак звычайнага магнэзу і абкруцім яго тонкім, медным дротам, які абвернуты шаўковай матэрыяй. Канцы дрота злучаны якой-небудзь крыніцай слабога электрычнага току. Такой крыніцай зьяўляецца „электрычны элемэнт“, які падобны на электрычныя батарэйкі, што ўжываюцца ў кішэнных ліхтарыках. На адным з канцоў магнэза, на невялікай адлегласьці ўмацуем тонкую бляшаную пласьцінку так, каб ражкі яе не маглі варушыцца. Калі абодвы канцы дроту будуць злучаны элемэнтам, электрычны ток будзе праходзіць па дроту і ўзмоцніць прыцягальныя якасьці магнэзу. Магнэз пачне з большай сілай прыцягваць бляшаную пласьцінку, яна выгнецца, імкнучыся сваёй сярэдзінай прытуліцца да магнэзу. Адлучым адзін канец дроту ад элемэнту, ток перапыніцца, сіла магнэзу паслабіцца і пласьцінка зноў выпрастаецца. Калі вельмі часта прапускаць і перапыняць электрычны ток, дык пласьцінка будзе хутка хвалявацца. Ад яе дрыжэньня і ўтвараецца паветраныя хвалі і наша вуха пачуе пэўны гук.



Калі электрычны ток праходзіць па дроце—магнэзпрыцягвае пласьцінку.

Такім чынам і зроблена тая частка тэлефоннага апарату, якую мы прыкладваем да вуха ў часе гутаркі. Гэтая частка апарату называецца *тэлефонам*, а бляшаная пласьцінка—*мэмбранай*.

### Вугальны парашок і ўплыў яго на словы.

Мы ўжо ведаем, як можна дабіцца таго, каб бляшаная пласьцінка ўтварала гукі. Але дзеля таго, каб гэтыя гукі адпавядалі мове чалавека, трэба зрабіць так, каб пласьцінка магла мяняць хуткасьць сваіх хваляваньняў у залежнасьці ад характару нашай мовы. Дзеля гэтага маецца другая прылада, прымацаваная на тэй-жа самай трубцы, што і тэлефон, якую мы ў часе размовы трымаем ля рота. Гэтая *мікрафонам*.

Мікрафон мае таксама мэмбрану, але не бляшаную, а медную або з вугалю. Гэта дзеля таго, каб па ёй лепш праходзіў электрычны ток. Мэмбрана служыць быццам накрыўкай для скрыначкі, у якой насыпаны дробны *вугольны* парашок альбо зерняткі вугалю. Электрычны ток, прыходзячы па шнуру, праходзіць па мэмбране і праз парашок ідзе далей.

Калі мэмбрану націснуць пальцам, дык гэтым самым мы сажмем парашок. Адлегласьць паміж асобнымі зярняткамі парашку зьменшыцца і электрычны ток пройдзе праз мікрафон куды лягчэй,—ён прыдзе ў тэлефон больш моцным і зможа павялічыць прыцягальную якасьць магнэзу. Калі мы палец адпусьцім, мэмбрана перастане націскаць на парашок, ён будзе рыхлейшым і электрычны ток павінен будзе патраціць частку сваёй сілы, каб прайсьці праз парашок.

Калі мы гаворым перад мікрафонам, гукавыя паветраныя хвалі б'юцца аб мэмбрану і прыціскаюць яе да парашка. Кожнаму нашаму гуку адпавядае пэўная колькасьць і хуткасьць хваляваньня мэмбраны.




Мікрафон: $n$—мэмбрана, $y$—вугольны парашок, $p$—уупар (трубка).

Кожны раз, калі мэмбрана пад уплывам паветраных хваль праціскаецца да парашка, электрычны ток будзе прахо-

дзіць лягчэй, і наадварот. У залежнасьці ад таго, які гук мы будзем вытвараць перад мікрафонам, сіла электрычнага току мяняецца ў адпаведную колькасьць разоў. А мы ўжо ведаем, што ад перамены сілы электрычнага току залежыць сіла магнэзу ў тэлефоне і хваляваньні тэлефоннай мэмбраны. Такім чынам, хуткасьць хваляваньня паветры ад нашае размовы дакладна будзе адзначацца тэлефоннай мэмбранай, якая ў сваю чаргу будзе вытвараць такія самыя гукі.

### Як зроблены тэлефонны апарат.

Цяпер мы ведаем дзьве часткі тэлефоннага апарату: тэлефон і мікрафон. Абедзьве гэтыя часткі прымацаваны да аднае трубкі, якая называецца *мікротэлефоннай* трубкай. Мікротэлефонная трубка злучана пры дапамозе шнура са скрынкай тэлефоннага апарату. Шнур складаецца з тонкіх, мяккіх драцінак, па якіх і праходзіць электрычны ток да магнэзу тэлефона і да скрынкі мікрафона.

Апрача мікратэлефоннай трубкі, тэлефонны апарат мае яшчэ некалькі частак. Там маюцца *элемэнты*, якія вырабляюць электрычны ток. Менскія тэлефоны такіх элемэнтаў ня маюць, бо электрычны ток вытвараецца адразу для ўсіх апаратаў на цэнтральнай станцыі.

У тэлефонных апаратах маюцца таксама *„індукцыйныя катушкі“*. Яны служаць для таго, каб адсылаць па дроту для другога апарату больш моцны ток, бо ток, які вытвараецца элемэнтамі, слабы для таго, каб прайсьці па ўсёй лініі, якая іншы раз цягнецца даволі доўга.

Апрача таго, у апаратах маюцца прылады для выкліканьня: *званок і індуктар з ручкаю*. Калі мы круцім ручку індуктара, ён тады вытварае электрычны ток, які, праходзячы па лініі, выклікае дрыжэньне малаточка аб унутраныя прылады званка. Пачуўшы званок, мы



Тэлэфон: *м*—магнэзы, *о*—катушка, *п*—мэмбрана, *э*—элемэнт (крыніца тока).

ведаем, што нехта хоча з намі размаўляць і падыходзім да апарата. У менскіх тэлефонах круціць за ручку ня трэба, званок на цэнтральнай станцыі адгукаецца сам па сабе, як толькі мы зьнімем мікратэлефонную трубку.

Пры дапамозе ўсіх гэтых прыладаў і дроту, прымацаванага да слупоў, мы можам весьці размовы.

**Л. Буравін.**



# СУХАЗЕМНЫЯ РЫБЫ.

Горача пячэ сонца ў Індыі, асабліва калі стаіць сухая пара году. Вада ў рэках і саджалках усё зьмяншаецца. Некаторыя саджалкі, якія ў дажджлівую пару зьліваліся ў адно вялікае возера, цяпераka зусім высыхаюць, а рыбам, якія ў іх засталіся, прыходзіць сьмерць. Кідаюцца яны туды-сюды, але дарэмна: не знайсьці рыбе ратунку па-за вадой.



Але вось ля берагу з вады высунулася адна рыбіна і папаўзла на зямлю. А за ёй пацягнулася другая, трэцяя—цэлая чарада. Праўда, паўзуць яны нязграбна, паціху, неяк сьмешна абапіраюцца на свае плаўнікі, часта валяцца на бок, але з дапамогай бакавых плаўнікоў, карыстаючыся кожнай травінкай, выпростваюцца і трымаюцца рубам.

Вось яны ўжо адышлі на мэтраў дзесяць - дваццаць - трыццаць. Там далей віднеецца другая саджалка, больш глыбокая. Відаць, туды яны і кіруюцца. Вось заўважыла іх птушка-пелікан, якая жывіцца рыбаю. Кінулася на іх, пачала глытаць. Рыбы пачалі хавацца ў траве, але дарэмна: пелікан пад'еў, колькі ўлезе. Але ўсе-ж такі шмат рыбы засталося.

Небясьпечна для іх такое падарожжа. Шмат ворагаў чакае іх па дарозе і горш за ўсіх—чалавек, які часам забірае іх усіх. Але яны ўсё-ж такі йдуць.

Часам бывае, што зблізку зусім няма вады, тады „анабасы" (так завуцца гэтыя рыбы) знаходзяць сабе іншую раду: закопваюцца ў глей і сьпяць там некалькі месяцаў. Але і тутака іх знаходзіць чалавек. Ён выкопвае іх рыдлёўкай, як бульбу.

---

Калі ў Індыі часта бывае сухмень, дык у Заходняй Афрыцы наадварот: аж занадта вады. Рэкі шырока разьліваюцца і ствараюць вялізарныя глеістыя балоты, у якіх жыве рыба „скакун". Гэты скакун нават спрытней за анабаса. Ён добра поўзае па дрэвах. Гэтаму дапамагаюць іх пярэднія плаўнікі, якія пастаўлены шырока па баках і рухаюцца, як лапы.

Вось некалькі іх вылезьлі з глею, падышлі да дрэва і лёгка палезьлі ўверх. Па дарозе злавілі і зьелі некалькіх жучкоў, дабраліся да тонкага гальля, пачалі шукаць спажывы ў лісьці. Вось на адным лісьце сядзіць муха, хоць і блізка але на другой галінцы. Нядоўга думаючы, рыба пераскаквае на гэту галінку. Так яны і жырыюць сабе на дрэвах у працягу нават некалькіх гадзін.

Але вось у гальлі нешта зашавялілася: зьявілася малпа. Перапалохаліся нашы рыбы такога вялікага стварэньня, заразжа саскочылі на зямлю, хутка пабеглі ў балота і закапаліся ў глей.



Вось і кажы цяпер: „ня можа жыць, як рыба без вады!" А гэтыя жывуць—і нічога. Нават у пабудове іх цела няма значных асаблівасьцяй, і дыхаюць яны таксама жабрамі, як і звычайныя рыбы.

М.



# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Работа атрада нас цікавіць.

*(57 атрад Ю. П. імя С. Халтурына пры саюзе Дрэваапрацовачнікаў, Віцебск).*

**Адпачынак у атрадзе.** Адпачынак выяўляецца ў занятках розных гурткоў, наладжваньні вечароў зьвеньнявых і самадзейнасьці, колектыўным наведваньні кіно і тэатру, правядзеньні прагулак за горад, агульна-атрадавых гульнях. колектыўнай чытцы піонэрскіх газэт і часопісяй.

**Колектыўнае наведваньне ў кіно і тэатр** часта праводзіцца ў нашым атрадзе. Пасьля прагляду тае ці іншае п'есы піонэры абгаварваюць яе, дзеляцца ўражаньнямі.

**Прагулкі** праводзяцца звычайна за горад на параходзе сумесна з комсамольскай ячэйкай і саюзам. У часе прагулак праводзіцца збор атрада, колектыўнае купаньне, гульні і песьні.

**Гульні.** Адзін дзень у тыдзень адводзіцца для вольных гульняў—„дзень гульняў“, чыткі газэт, часопісяй. Дзеці гуляюць па ўласнаму жаданьню ў баскет-болл, гарадкі, кракет, шашкі, шахматы, эстафэтны бег і іншыя гульні. Акрамя таго, гульні праводзяцца ў нас на ўсіх занятках атрада.

Гульні і наогул усе заняткі цікавяць, прываблiваюць у наш піонэрскі клюб неорганізаваных дзяцей, што спрыяе значна пашырэньню атрада.

**Гурткі** працуюць у атрадзе наступныя: шахматны, шашачны, драмгурток малодшых зьвеньняў.

У шашачным і шахматным гуртках прымае ўдзел амаль што большая палова атрада. Першыя заняткі гэтых гурткоў былі прысьвечаны растлумачэньню правіл гульняў. У сучасны момант праводзяцца невялічкія спаборніцтвы, маецца на мэце зрабіць турнір.

Драмгурток з піонэрамі малодшых зьвеньняў быў організаваны па жаданьню саміх дзяцей. Гурток займаецца пастаноўкай розных дзіцячых п'ес на агульна-атрадавых вечарох.



*У нашай школе ўсе мыюць рукі перад сьнеданьнем. А як у вас?*

**Зьвеньнявыя вечары** наладжваюцца адным альбо двумя зьвеньнямі і звычайна прыстасоўваюцца да якога-небудзь рэволюцыйнага сьвята. Вечары гэтыя праводзяцца на кватэры ў каго-небудзь з піонэраў. Такімі вечарамі вельмі цікавяцца бацькі і прымаюць удзел і неорганізаваныя дзеці. Програма такога вечара складаецца з гутарак піонэраўкомсамольцаў, гульняў, чытак апавяданьняў, разьвязваньня задач, сьпяваньня і г. д. Такія вечары вельмі карысны.

**Вечары самадзейнасьці** таксама прыстасоўваюцца да сьвят. Програма вечароў вельмі рознастайная. Звычайна ў нас бывае так: спачатку пачынаецца з гутаркі комсамольца альбо партыйца аб самым сьвяце ці іншай якой-небудзь кампаніі. Пасьля ставіцца п'еса альбо інсцэніроўка, за п'ескай ідзе выступленьне асобных піонэраў; хто з чым—адны з песьняю, другія—з дэклямацыяй. Выступленьне групаў спортыўнай, балетнай, музычнай.

Такія вечары звычайна падабаюцца як піонэрам, так і запрошаным гасьцём.

**Праца сярод старэйшых дзяцей.** Амаль усе старэйшыя піонэры зьяўляюцца комсамольцамі. Яны прымаюць удзел на сходах комсамольскай ячэйкі, а таксама і значна дапамагаюць павадыру ў працы атрада.

У нас яшчэ практыкуюцца сумесныя пасяджэньні комсамольцаў-піонэраў разам з ячэйкай КСМ, на якіх вырашаюцца асобныя пытаньні працы атрада і даюцца ўказаньні ў далейшай працы. Дзякуючы такім умовам працы выхадаў старэйшых піонэраў з атрада няма.

**Піонэры.**



## Мароз.

**Іду я, сьняжысты, ўсясільны,**
**Па сьцежках-пуцінах пустых.**
**І ночкай і днём бязупынна**
**Пільную абшараў сваіх.**

**Бязьмежна ўладарна паную**
**Пад сховаю пушчавых вех.**
**Каронаю бор мне зялёны,**
**А тронам-пасадам бел-сьнег.**

**Палац мой—лес буйны, вяцьвісты—**
**Ірдзіцца брыльлянтамі скрозь,**
**Мне воўк і мядзьведзь у паслугах,**
**Мне служыць вавёрка і лось.**

**Як пухам, сьняжком пасыпаю**
**І хвою, і елку, і клён;**
**Хто ў госьці ка мне забярэцца,**
**Тулю тых, галублю іх сон.**

**І казкі шапчу ім аб шчасьці.**
**І цемру зганяю з вачэй...**
**Хадзеце, хадзеце к марозу!**
**Хадзеце у госьці хутчэй!**

**Янка Купала.**

---

## Адзін момант працы.

Наш атрад значную ўвагу зьвяртае справе сувязі з бацькамі. Праводзяцца сходы бацькоў, сумесныя вечары-сходы, на якіх праводзяцца гутаркі аб працы атрада. Дзетбюро разглядае ўсе асноўныя пытаньні працы атрада. Бацькі ў большасьці сваёй цікавяцца працай атрада, наведваюць заняткі, дапамаглі абсталяваць тэхнічны гурток. Цяпер намі праводзіцца падпісны ліст па збору грошай для організацыі гуртка шыцьця і кройкі і сталярнай майстэрні.

Піонэры сярод бацькоў праводзяць культурна-санітарную працу, організоўваюць вечары для бацькоў, санітарныя абгляды сваіх хат у сувязі з правядзеньнем у атрадзе заданьня „аб санітары". Праводзіліся гутаркі аб тым, як праводзіць санітарыю дома. Зацікаўленасьць бацькоў работай атрада можна растлумачыць тым, што яны добра з ёю знаёмы, дзякуючы частым наведваньням атрада.

**Піонэр 37-га ат., г. Віц.**

# Наладзілі сувязь з маракамі.

(*Піонэр-база, ст. Віцебск*).

Жыва, як ніколі, піонэры базы ст. Віцебск Паўночна-Зах. чыг. адгукнуліся на заданьне па збору сродкаў на пасылку свайго дэлегата на лінейны карабель „Парыская Комуна“. На ўсіх сходах, у клюбе, усюды можна было ўбачыць лістоўкі ў руках „чырвонагальштучнай“ братвы. Не прайшло і тыдню, як грошы (15 руб.) былі сабраны. Дэлегатам быў абраны піонэр Скарабагатаў.

Лёню ведаюць ня толькі піонэры ст. Віцебск, але і ўсе школьнікі і лягернікі акругового лягеру. Гэта ён адзін з першых уступіў у піонэр-організацыю, быў прадстаўніком савету атрада, у школе старшынёй савету форпосту, у лягеры „урачом“, як празвалі яго лягернікі.

Але вось дэлегат ужо зьвярнуўся. Льюцца бойкія словы дэлегата: ён расказвае піонэрам аб тым, што карабель, гэта волат, які стаіць на абароне кастрычнікавых заваёў. Асабліва спыніўся Лёня на тым, што адрас ад імя піонэраў быў прыняты маракамі з вялікай радасьцю і што цяпер у Ленінскім кутку ў адзнаку цеснай сувязі чырвонафлётцаў з нашымі піонэрамі будзе знаходзіцца наш адрас.

Справаздача скончана. Піонэры абіраюць адказнага па шэфству над флётам і пасьля дружна складаецца колектыўны ліст на „Лінкор“. Нязграбна напісаны. Ды нічога—зразумеюць. Так наладзілі мы сувязь з падшэфным беларускаму комсамолу і піонэрам лінкорам.

**Мікола Цэбальт.**

# Організавалі гурток „хуткай дапамогі“.

*(6 атрад М. Б. Б. чыг. Віцебск.).*

На адным з пасяджэньняў атраду было пастаўлена пытаньне аб організацыі гуртка „хуткай дапамогі“.

Урач, прымацаваны да нашага атраду, з ахвотай узяўся за кіраўніцтва гуртком.



У дзіцячым садзе.

Дзеці ва ўзросьце ад 14-15 год з ахвотай запісваліся ў гурток і цяпер гурток налічвае да 15 чалавек, з якіх у большасьці дзяўчаты.

У гуртку спачатку праводзяцца гутаркі аб аказаньні „хуткай дапамогі“, а таксама выконваем і практычную работу, як перавязка ранаў і г. д.

Хутка гурток пяройдзе на вывучэньне атрутных газаў.

**В. Кіраў.**

## Набываем працоўныя навыкі.

*(Атрад Рабіс, гор. Віцебск).*

У атрадах да надыходу лета працавалі: пераплётны гурток, фото-гурток, „кіно-мэханік“. Улетку яны прыпынялі працу з прычыны адʼезду кіраўнікоў. Да гэтага часу пераплётны гурток пераплятаў бібліотэку, фота-гурток прайшоў тэорытычную частку заняткаў.

У сучасны момант, у сувязі з прыездам кіраўнікоў, гурткі зноў пачалі працаваць.

Тры піонэры пабудавалі радыё, шэсьць модэляй самалётаў і адзін кіно-апарат.

**Піонэр.**

## Конкурс зацікавіў.

12-ты атрад м. Койданава правёў конкурс за лепшае вывучэньне вінтоўкі, процівагаза і біографіі Варашылава. Конкурс прайшоў вельмі добра. Усе піонэры прымалі актыўны ўдзел у конкурсе.

Вылучаная камісія правяла падлік конкурсу, ацаніла працу ўдзельнікаў. Першае месца заняў піонэр Азярыцкі А., які атрымаў, як падарунка, агульны сшытак з подпісамі і пасьведчаньнем ад сяброў камісіі.

І ў далейшы час піонэры пастанавілі рабіць часьцей конкурсы, якія цікавяць усіх піонэраў.

**А. А.**

## Што чытаць.

**Іван Ковтун. Таварыш і таварышок,** пераклад з украінскае мовы. Выданьне „Чырвонай Зьмены“. Цана 20 к.

Гэтая кніжка закранае ў сабе досыць цікавую тэму: як практычна дзеці дапамагалі Чырвонай арміі ў часе грамадзянскай вайны.

Падзея адбываецца на Украіне. Янка—гэрой аповесьці, сын беднае ўдавы, служыць у кулака за хлеб. Горкае жыцьцё парабка дае магчымасьць Янку распазнаць, хто ён такі і хто такі гаспадар. Янка добра разумее, за што змагаецца Чырвоная армія і за што змагаюцца царскія генэралы.

Аднаго разу, пасучы кароў, Янка раптоўна найшоў на параненага чырвонаармейца.

Паранены застаўся не падабраным адступаючымі чырвонаармейцамі.

Янка з гэтага часу становіцца неразлучным таварышом чырвонаармейца і яго памоцнікам. Шмат труднасьцяй і прыгодаў перажывае Янка, пакуль не ачуняў яго таварыш Максім. За гэты час Янка шмат чаго даведаўся ад комсамольца Максіма.

Але ўсе мукі таварышоў спыняюцца з прыходам чырвоных.

Апавяданьне апрача свае асноўнае тэмы закранае шмат пытаньняў з сялянскага жыцьця: барацьба беднякоў з кулаком за зямлю, уціск генэраламі сялян і г. д.

Нашы дзеці мала ведаюць гэты страшэнны час у гісторыі рэволюцыйнага змаганьня. Чытаньне такіх мастацкіх твораў шмат дапамагае ўявіць сабе малюнкі барацьбы за ўладу і рыхтавацца самім стаць добрымі і адважнымі змаганцамі за справу Кастрычніка.

Аповесьць разьлічана на дзяцей сярэдняга і малодшага ўзросту. Яснае, мастацкае апісаньне падзей дапаўняе сабой цікавы зьмест твору.

Такая кніжка для нашых дзяцей вельмі патрэбна і неабходна.

**Настаўнік.**




## Задачы.

№ 1. Ад дваццаці адняць 88 так, каб засталося 22?

№ 2. Якія лікі (большыя за 100) пры чытаньні не зьмяняюцца пры пераварачваньні іх?

№ 3. Падзяліць на паперы лік дванаццаць на 2 роўныя часткі так, каб палова гэтага ліку была *сем*.

№ 4. Аднаго чалавека спыталі, колькі ў яго маецца грошай. Ён адказаў: „Мой брат утрое багацей мяне, бацька ўтрое багацей брата, дзед утрое багацей бацькі, а ўсе мы маем роўна 1000 рублёў. Вось і ўгадайце, колькі ў мяне грошай?

№ 5. Выразаць з гэтай фігуры такую частку, каб, прылажыўшы да астатняй часткі, атрымаць унутры фігуры поўны квадрат.






Якая з гэтых ліній большая: AC за AB ці AB за AC?

**№ 6. Як зайчыкі знайшлі свае вушкі.**

Адзін раз здарылася так, што няведамым манерам зайцы згубілі свае вушкі. Што рабіць? Туды-сюды паскакалі па кусточках, купінках і... знайшлі частку прапажы: *3 вухі*... Але зайчыкі падзялілі іх паміж сабой і атрымалася так, што зноў кожны зайчык меў пару вушак. Як зайчыкі падзялілі вушкі?*)



**№ 7. Шарада.**

Першыя 2 склады—жан. імя.
Другія 2—твару частка,
А ўсё—смачная яда з мяса.

**№ 8. Задача-жарт.**

Якую літару ад якой часткі саней адняць, каб астаўся ад яе адзін толькі пыл?

## Адказы на задачы,

якія зьмяшчаліся ў верасьні, кастрычніку і лістападзе м-цах.

**№ 17.** Загадка ў вершах—**павукі.**

**№ 2.** —Калі ён **сыры.**

**Загадкі:** № 1 —калі едзе ў вагоне бяз білета; № 2 —стол; № 3 —сухога; 4— яблыкі былі зьвязаныя; 5 —рукавіцы; 6 —вугаль; 7 —дуга.

**№ 19.** Задача ў форме молата мае такі адказ: з ручкі малатка і з загостранага канца часткі пераносяцца ў квадрат так, як гэта паказана на малюнку 1 (трэцяя стар. вокладкі).

**Рэбус № 1** —Атрады рыхтуйцеся да агляду.

**Рэбус № 2**—хочаш міру, рыхтуйся да вайны.

**Рэдкая монэта**—зборшчык сказаў таму, што такое даты (53 год да Нараджж. Хрыста) быць не магло ў той час, калі яшчэ ня было вядома імя Хрыста.

---

*) Адказ будзе ў № 24.




Задача (бяз нумару)—будзь здаровым, умацоўвай свой організм.

**№ 20.** 1-я загадка — Пінск — піск (у загадцы па недагляду корэктуры заместа літ. „н" надрукавана „П").

**2-я задача** — Юзік аддае Міхасю гэту адну капейку. Рэшту-ж (2 к. яшчэ), якія быў вінен Юзік Міхасю, Міхась мог сыскаць у Кастуся (бо Кастусь-жа быў вінаваты Юзіку 2 кап.), але паколькі Міхась, у сваю чаргу, быў вінаваты Кастусю 2 кап. — яны гэткім парадкам разьлічыліся між сабой бяз грошай.

**3-я задача** — чарвяк прагрыз 680 стар. (толькі адзін другі том). Тут трэба мець на ўвазе, што кніжкі ставяцца на палічцы ў такім парадку:

1 том | 2 том | 3 том

**4-я задачка** — мае такі адказ:



**5-я задачка.** 1) Ганна і Мар'я пераяжджаюць на другі бераг, 2) Мар'я адна варочаецца назад, 3) Пятрусь едзе на той бераг, 4) Ганна варочаецца назад, 5) Ганна едзе з Мар'яй. 6) Ганна варочаецца назад, 7) Рыгор едзе на той бераг, 8) Мар'я едзе за Ганнай, з якой варочаецца на другі бераг.

**Рэбус** — Мы сьвет на новы лад збудуем.

**№ 21.** Задача № 1 — СТО задача-жарт № 2 — літара „р". Задача № 3 — адна дошчачка кладзецца на вугал канавы, а другая на рог луга і на гэту дошчачку.

**Увага:** У задачцы, зьмешчанай у № 16 „Угадаць дзень нараджэньня", маецца наступная недакладнасьць: той, хто радзіўся ў кастрычніку і пазьней (лістапад і сьнежань) павінен да адзінак атрыманага рэзультату дабавіць лічбу 9. Прыклад. Радзіўся 19 кастрычніка. 19×2=38; 38+5=43; 43×5=215; 215+10=225; 255—34=191; 1+9=10 (гэтая лічба „10" і будзе паказваць, які месяц, у данным выпадку—кастрычнік).

---

## ЗЬМЕСТ.



### Вокладка:

ЦАНА 12 кап.

# Усіх, Усіх, Усіх!




## ЗАКЛІКАЮ ПАДПІСАЦЦА НА ДВУХТЫДНЁВУЮ ІЛЮСТРАВАНУЮ ДЗІЦЯЧУЮ ЧАСОПІСЬ

## на 1928 год „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ на 1928 год

Часопісь каштуе ўсяго **20 кап.** на месяц (2 нумары), на ўвесь 1928 год трэба ўнесьці толькі 2 р. 40 к., каб мець магчымасьць чытаць багатую па зьместу і ілюстраваньню дзіцячую часопісь **„Беларускі Піонэр“**

Падпісацца можна: на ўсіх поштах, у Менску—**Комсамольская, 25, Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.**

Заказ № 699. У ліку 3.150 экз. Галоўлітбел № 156.

1-ая друкарня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.